



# Рэгіянальная газета. Rh.by




НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

12 жніўня 2016 года №33 (1111)


## Колькі медыкаў прыйшло на працу ў рэгіён

старонка 21



## Як гэта – быць бортправадніцай Катарскіх авіяліній і абляцець увесь свет

старонка 5

## Новае тэрапеўтычнае аддзяленне адчынілі ў Смаргоні

старонка 20

# "Грыбкі" або "мясцовыя еўраопты"

## – так называць вяскоўцы месцы для гандлю, абсталяваныя пры дарозе

Малочныя прадукты – хіт продажу на вясковых міні-рынках

старонка 3

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.


Фота забяспечанае Таццянай МАЙСАК.

Дзеці на медыцынскай працэдуры "араматэрапія".

## Чатыры міжнародныя праекты дзейнічаюць у аздараўленчым цэнтры "Надзея

ВІЛЕЙКА

Ад 2 жніўня ў дзіцячым цэнтры "Надзея" запусцілі чатыры міжнародныя праекты. Іх фінансуюць грамадскія арганізацыі Аўстрыі, Італіі, Ірландыі і Японіі, распавяла **Таццяна Майсак**, вядучы спецыяліст Цэнтра па сувязях з грамадскасцю.

– З Чарнобыльскім дзіцячым фондам Японіі "Надзея" супрацоўнічае з 1993 года, – распавяла Таццяна. – Фонд набыў для "Надзеі" аўтобус, хуткую дапамогу "Таёта" з апаратам ультрагукавога даследвання, пастаянна падтрымлівае фінансава.

У рамках праектаў аздараўліваюць дзяцей з бацькамі са Светлагорскага раёна Гомельскай вобласці, а таксама дзяцей з усёй краіны з захворваннямі крыві, лімфатычнай сістэмы і анкалагічнымі захворваннямі, дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.

Ад 4 да 7 жніўня ў цэнтры знаходзіліся прадстаўнікі фонду "Дзецям Чарнобыля" з аўстрыйскага горада Люстэнаў.

Аксана ЯРАШОНАК.

## Акцыю "Хутка ў школу" арганізавалі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

Ад 1 ліпеня да 1 верасня па ініцыятыве Цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва на Вілейшчыне ладзіцца дабрачынная акцыя "Хутка ў школу".

Акцыю праводзяць кожны год, каб дапамагчы малазабяспечаным сем'ям сабраць дзяцей у школу. У мінулыя гады вілейскія прадпрыемствы актыўна падтрымлівалі гэту ініцыятыву.

Па словах супрацоўнікаў цэнтра, не павінны стаць выключэннем і гэты год. Пачатак пакладзены: пра акцыю паведамілі прадпрыемствам і арганізацыям горада і раёна. Некаторыя ўжо адгукнуліся на прапанову паўдзельнічаць. Сярод іх Вілейскі хлебазавод, дарожнае рамонтна-будаўнічае ўпраўленне №162, Вілейскі рамонтны завод, упраўленне капітальнага будаўніцтва.

Цэнтр сацыяльнага абслугоўвання прымае любыя школьныя прылады, партфелі, новы абутак, вопратку для школьнікаў.

Тэлефоны для даведак: **(801771) 2-18-33, 2-26-28.**

Аксана ЯРАШОНАК.

## Летні лагер "Ратнік" пачынае працаваць на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

На базе аздараўленчага лагера "Лясная казка" ад 7 жніўня пачаў працаваць лагер "Ратнік". Запланаваныя дзве змены: першая – ад 7 да 15 жніўня, другая – ад 16 да 24 жніўня. Лагер разлічаны на вучняў, якія стаяць на розных відах уліку.

Паведаміла галоўны спецыяліст Вілейскага аддзела адукацыі спорту і турызму **Ірына Пескавая.**

Аксана ЯРАШОНАК.



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Чытачка Ганна Шчасная і бібліятэкар Ала Радкевіч.

# Лета для нас – не ціхі сезон

## Будні смаргонскай бібліятэкі

СМАРГОНЬ

**Хутка падвядуць вынікі конкурсу "Лета ў краіне цудаў", які зладзіла Смаргонская раённая бібліятэка для маленькіх чытачоў. Што яшчэ цікавага адбываецца тут летам?**

У зале абанементу сустракаю чытачку **Ганну Шчасную.** Нягледзячы на шчыльны графік работы індывідуальная прадпрымальніца рэгулярна наведвае бібліятэку. На гэты раз яе зацікавілі кнігі замежных пісьменнікаў. Дадому бярэ творы **Габрыэля Гарсія Маркеса, Густава Флабэра, Джоржа Оруэла.** Кажа, што пра цікавыя кніжкі даведваецца з інтэрнэта.

Бібліятэкарка **Ала Радкевіч** дае чытачцы прафесійныя парады:

– Маркес вельмі своеасаблівa пісаў. Гэта на аматара, не кожнаму спадабаецца. А ў Джорджа Оруэала абавязкова пачытайце твор "1984". Гэта раман-утопія да навуковай фантастыкі падобны.

– Для нашай бібліятэкі – лета не ціхі сезон. Гэта час адпачынкаў і канікул, а значыць можна газеты і кнігі добрыя пачытаць, у прапанаваных мерапрыемствах паўдзельнічаць, – кажа загадчыца аддзела бібліятэчнага маркетынгу **Таццяна Камароўская.** Летам больш актыўна пачынаюць працаваць бібліятэчныя клубы, аматарскія аб'яднанні. Дзеці звычайна прыязджаюць да бабуль у вёску, таму і чытачоў у сельскіх бібліятэках становіцца больш.

У Солах жыве член Саюза пісьменнікаў Беларусі **Мар'ян Дукса.** У бібліятэцы ладзяць прэзентацыі яго кніг і сустрэчы з чытачамі.

Бібліятэчныя мерапрыемствы арганізуюць у адпаведнасці з календаром. Так, у канцы ліпеня ў большасці бібліятэк горада і раёна адбыліся святы, дыспуты, круглыя сталы, інфармацыйныя гадзіны на тэмы "Здаровым будзеш – усё здабудзеш", "Мы за здаровы лад жыцця". Звычайна на такія мерапрыемствы запрашаюць супрацоўнікаў Смаргонскага цэнтра эпідэміялогіі, каб пачуць прафесійныя адказы на важныя пытанні.

19 жніўня гарадская бібліятэка №1 запрашае чытачоў у фальклорнае падарожжа "Спас – усяму час". Гледачы даведаюцца пра гісторыю і традыцыі свята. Арганізатары прадстаўяць цікавую выставу "Спасы – рыхтуй запасы" з аглядам літаратуры па тэме, правядуць гульнявую хвілінку "Яблычная фантазія".

**Пра ўсе запланаваныя акцыі бібліятэкары змяшчаюць анонсы на сайтах бібліятэкі і райвыканкама. На сайце бібліятэкі размяшчаюцца навіны, планы і расклады бібліятэкі, на дзіцячай старонцы – спісы літаратуры на лета для кожнага класа, умовы конкурсаў, цікавыя фотаздымкі.**

### Прачытаць 15 кніг, каб перамагчы

**– Апошнім часам сельскія бібліятэкі ў рэгіёне пераносяць у школу. Ці былі ў вас у раёне такія эксперыменты?**

– Так, у школу перанеслі Сыраваткаўскую сельскую бібліятэку, – кажа Таццяна Камароўская. Аднак тут ёсць і станоўчыя, і адмоўныя бакі. Школьнікі сталі часцей прыходзіць у бібліятэку, а вось іншыя чытачы – радзей. Разумееце, у школах цяпер ахова. А нашы чытачы бываюць рознага выгляду, нават такога, што ў школу іх могуць не пусціць. Цяпер многія мясцовыя жыхары больш ахвотна карыстаюцца паслугамі нашага бібліёбуса.

На працягу лета доўжыцца конкурс для дзяцей "Лета ў краіне цудаў". Што трэба зрабіць, каб стаць яго пераможцам? Пра гэта распавядае галоўны бібліятэкар **Іна Самарэвіч:**

– Трэба наведаць бібліятэку не менш, чым пяць разоў, прачытаць 15 кніг, выканаць заданні на прапанаваныя тэмы, весці дзённік чытача, адрамантаваць дзве-тры бібліятэчныя кнігі і актыўна ўдзельнічаць у мерапрыемствах, якія прыпануе бібліятэка.

**– А як вы даведадаецеся, што дзіця прачытала кніжку, а не проста карцінкі прагледзела? Будзеце пытанні па змесце задаваць?**

– Ну, што вы. Дзеці – гэта ж не дарослыя. Яны ніколі не стануць падманваць нас, – не падзяляе маёй недаверу галоўны бібліятэкар.

Пераможцаў конкурсу ўзнагародзяць у пачатку новага навучальнага года ў школе. Атрымліваць кнігу і дыплом на вачах настаўнікаў і аднакласнікаў больш ганарова, лічыць Таццяна Камароўская.

Аксана ЯРАШОНАК.

ТЭМА НУМАРА



На міні-рынку ля Ілы. Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

# Чым вабяць прадаўцоў і пакупнікоў вясковыя міні-рынкі

ВІЛЕЙКА

**– Іванаўна, ты чарніц шмат сабрала?**
**– Літраў сем.**
**– Будзеш варэнне варыць?**
**– Ды не. На грыбок панясу.**

"Грыбкі" або "мясцовыя еўраопты" – так называць вяскоўцы месцы для гандлю, абсталяваныя пры дарозе.

– Афіцыйна такія месцы называюцца міні-рынкамі, – распавяла галоўны спецыяліст Ільянскага сельскага выканкама **Вольга Танюкевіч**. Працуюць яны з дазволу райвыканкама. Для таго, каб гандляваць там уласнай гароднінай, жыхары павінны ўзяць даведку ў сельскім выканкаме пра тое, што яны маюць уласную гаспадарку. Часцей за ўсе такія міні-рынкі будуюць работнікі лясніцтва. Але ў вёсцы Абадоўцы зрабілі самі мясцовыя жыхары.

Нядзеля. Дзесяць гадзін раніцы. Міні-рынак ля Ілы вабіць колерамі і пахамі. Малако, тварог, сыры розных гатункаў, яйкі, ягады, грыбы, гародніна, мёд з уласнай пасекі. Побач венікі для лазні і кошыкі.

### Самыя свежыя грыбы і ягады – на вясковых міні-рынках

А вось і першы пакупнік:

– Што ў вас ёсць? Бульба ці картошка?

– І бульба, і картошка, і нават картопля, калі вы з Палесся, – у тон пакупніку жартам адказвае прадавачка.

– Я быў адным з першых, хто пачынаў гандаль пры дарозе, – кажа ільянец **Юрый Вайцяхоўскі**. – Было гэта ў канцы 1990-ых гадоў. Заўважыў, што апошнім часам на рынках з'явілася канкурэнцыя: мясцовым жыхарам часам не хапае месца, бо прыязджаюць людзі з іншых далёкіх вёсак і нават Вілейкі. Нам, ільянцам, гэта не падабаецца.

На міні-рынку, кажа Юрый, ягады і грыбы заўсёды больш свежыя, чым на звычайных рынках у горадзе:

– Я іду ў лес у чатыры гадзіны раніцы, пасля дома перабіраю грыбы і ягады, і ў 11-12 ужо на рынку. А вы паспрабуйце давесці тыя ж чарніцы да Мінска. Адразу страчваецца прывабны выгляд, губляецца смак і карысныя ўласцівасці.

У тым, што на міні-рынках грыбы сапраўды самыя свежыя, пераконваюся, назіраючы за дзядулем – прадаўцом з Асцюковічаў. Ён ідзе ў лес, што праз дарогу ад міні-рынка, праз гадзіну-другую вяртаецца з поўнымі вёдрамі падасінавікаў, тут жа іх перабірае і ставіць на прылавак для пакупнікоў, якія не прымушаюць сябе доўга чакаць.

– О! З грыбамі ў нас цікавыя гісторыі здараюцца, – кажа прадавец **Міхаіл Каралёў** з Ілы. – Неяк прыехаў мужчына. Кажа, трэба грыбоў купіць, каб жонка і цешча не сварыліся. У сям'і сказаў, што паехаў у лес, а сам, відаць, быў невядома дзе. Купіў у нас вядро лісічак і вядро падасінавікаў. А мы яму параілі грыбы яловымі іголкамі пасыпаць, каб зусім па-сапраўднаму было.

### Артысты нам песні спявалі, а паэты чыталі вершы

– Раскажыце пра сваіх пакупнікоў. Хто яны?

– Часцей гэта людзі, якія едуць на лецішчы ў Мядзельскі раён з Мінска. Купляюць грыбы. Ягады бяруць не вёдрамі, а шклянкамі або літрамі. Неаднойчы прыязджалі тэлевядучая **Святлана Бароўская** і акцёр **Анатоль Кацянёў**. У іх лецішча ў суседніх Кучках. Хоць і знакамітыя людзі, але паводзілі сябе проста, як звычайныя пакупнікі. А некалі мае тавары купляў дырэктар Камароўкі, – распавядае бабуля-прадавачка.

Да размовы далучаюцца іншыя прадаўцы. Аказваецца, сярод пакупнікоў на міні-рынках сустракаюцца вядомыя кампазітары, спартоўцы, спевакі, дэпутаты.

– Артысты тут нам спявалі песні, а паэты вершы чыталі, – кажа Міхаіл Каралёў. – У некаторых з нас нават кніжкі з аўтографамі ёсць.

Часта нашы размовы прыпыняюць пакупнікі. Малады чалавек купляе пяць дубовых венікаў для лазні, сям'я набывае чарніцы, падасінавікі, сыр. Пытаюцца пра сала. І яно ёсць. Па 110 тысяч за кілаграм недэнамінаванымі грашыма.

– Цяжка прывыкалі да новых грошай? – пытаюся ў самай старэйшай прадавачкі.

– Не, я хутка ўсё зразумела. А вось пакупнікі і цяпер блытаюцца.

Самая маладая на міні-рынку студэнтка **Юлія Чыркевіч**. Яна прыехала ў Ілью на канікулы да бацькоў.

– Прадаю дурніцы па 50 тысяч за літр, – кажа Юля. – Збірала сама на балоце. Хутка ехаць ва ўніверсітэт. Вучуся платна і за кватэру плачу. Вось грошы і спатрэбяцца.

Адносіны паміж прадаўцамі добрыя. Прыглядаюць за ўсім таварам, мяняюць грошы і цыратовыя пакецікі пазычаюць адзін аднаму.

– Да пабачэння. Калі ў наступны раз прыедзіце, бярыце што-небудзь на продаж, каб не стаялі дарма, – развіталіся са мной прадаўцы з міні-рынка.

Аксана ЯРАШОНАК.

### Цэны на міні-рынку ля Ілы

| Тавар | Цана, руб. | |
|---|---|---|
| Малако, 1 л | 12 000 | 1,20 |
| Тварог, 1 кг | 60 000 | 6,00 |
| Сыр тварожны запечаны, 1 кг | 65 000 | 6,50 |
| Сала, 1 кг | 110 000 | 11,0 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 |
| Яйкі курыныя, 1 дз | 30 000 | 3,00 |
| Дурніцы, 1 л | 50 000 | 5,00 |
| Чарніцы, 1 л | 35 000 | 3,50 |
| Памідоры, 1 кг | 20 000 | 2,00 |
| Кошык | 100 000 | 10,0 |
| Венік для лазні | 30 000 | 3,00 |

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 4.08 руб. | 11.08 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 1,9928 | **1,9652** |
| Еўра | 2,2331 | **2,1902** |
| Злоты, 10 | 5,1337 | **5,1102** |
| Расійскі рубель, 100 | 2,9824 | **3,0323** |
| Грыўня, 100 | 8,0250 | **7,9234** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 10.08** | | |
| Еўра | 2.2000/2.2350 | **2.1600/2.2000** |
| Долар ЗША | 1.9700/1.9950 | **1.9500/1.9700** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 3.08 | | 10.08 | |
|---|---|---|---|---|
| | Цана руб. | | | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 149 800 | 14,98 | 149 800 | 14,98 |
| Сасіскі, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 58 500 | 5,85 |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 31 800 | 3,18 | 31 800 | 3,18 |
| Свініна (выразка), 1 кг | 70 000 | 7,00 | 70 000 | 7,00 |
| Мінтай свежамар., 1 кг | 41 800 | 4,18 | 41 800 | 4,18 |
| Селядзец, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 95 000 | 9,50 | 135 000 | 13,50 |
| Рыс, 0,9 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Грэчка, 0,8 кг | 25 300 | 2,53 | 25 300 | 2,53 |
| Яйкі курыныя С1, 1 дз. | 13 000 | 1,30 | 13 000 | 1,30 |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | 2,40 | 24 000 | 2,40 |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | 0,66 | 6 600 | 0,66 |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 16 200 | 1,62 | 16 200 | 1,62 |
| Кава "Nescafe", 100 г | 38 500 | 3,85 | 38500 | 3,85 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 17 000 | 1,70 | 17 000 | 1,70 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 9 000 | 0,90 | 6 500 | 0,65 |
| Часнок, 1 кг (малады) | 64 500 | 6,45 | 67 500 | 6,75 |
| Капуста, 1 кг (маладая) | 6 900 | 0,69 | 5 500 | 0,55 |
| Морква, 1 кг (маладая) | 7 900 | 0,79 | 6 500 | 0,65 |
| Баклажаны, 1 кг | 13 500 | 1,35 | 14 900 | 1,49 |
| Лімоны, 1 кг | 58 500 | 5,85 | 59 900 | 5,99 |
| Апельсіны, 1 кг | 26 900 | 2,69 | 26 900 | 2,69 |
| Мандарыны, 1 кг | 37 900 | 3,79 | 36 900 | 3,69 |
| Нектарыны, 1 кг | 34 500 | 3,45 | 38 000 | 3,80 |
| Абрыкосы, 1 кг | 32 900 | 3,29 | 32 900 | 3,29 |
| Ківі, 1 кг | 37 000 | 3,70 | 24 900 | 2,49 |
| Буракі, 1 кг | 5 900 | 0,59 | 4 000 | 0,40 |
| Памідоры, 1 кг | 15 000 | 1,50 | 15 000 | 1,50 |
| Агуркі, 1 кг | 6 900 | 0,69 | 7 900 | 0,79 |
| Перац, 1 кг | 14 900 | 1,49 | 14 900 | 1,49 |
| Кавун, 1 кг | 8 000 | 0,80 | 8 000 | 0,80 |
| Дыня, 1 кг | 18 000 | 1,80 | 16 900 | 1,69 |
| Кабачок, 1 кг (малады) | 7 000 | 0,70 | 4 000 | 0,40 |
| Вінаград, 1 кг | 45 000 | 4,50 | 32 500 | 3,25 |
| Бананы, 1 кг | 23 500 | 2,35 | 23 500 | 2,35 |
| Яблыкі, 1 кг | 9 000 | 0,90 | 10 900 | 1,09 |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 21 900 | 2,19 | 21 900 | 2,19 |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | 1,80 | 18 000 | 1,80 |
| Масла, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | 5,50 | 55 000 | 5,50 |
| Бульба, 1 кг (маладая) | 4 000 | 0,40 | 4 000 | 0,40 |
| Сала, 1 кг | 100 000 | 10,00 | 100 000 | 10,00 |
| Яйкі, 1 дзясятак | 20 000 | 2,00 | 20 000 | 2,00 |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | 6,00 | 60 000 | 6,00 |

## У нядзелю насмерць збілі раварыста

**ВІЛЕЙКА**

Аварыя здарылася недалёка ад вёскі Журыхі каля дзевяці раніцы.

53-гадовы мясцовы жыхар выязджаў з другараднай на галоўную. Мужчына не спыніўся на скрыжаванні, каб саступіць дарогу аўтамабілю "Шэўрале Авеа", які рухаўся па галоўнай справа.

Яны сутыкнуліся.

Ад атрыманых траўм раварыст памёр на месцы здарэння.

Пра аварыю расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

## У Палачанах у аварыі пацярпелі дзве жанчыны

**МАЛАДЗЕЧНА**

Дарожна-транспартнае здарэнне адбылося 9 жніўня ў вёсцы Палачаны Маладзечанскага раёна каля сямі вечара.

25-гадовы кіроўца аўтамабіля "Аўдзі-100" выязджаў з другараднай і не саступіў дарогу "Пежо-607".

Машыны сутыкнуліся.

У аварыі пацярпелі пасажыркі "Аўдзі". Іх шпіталізавалі. Адной жанчыне 40 год, другой – 67. Пацярпелыя знаходзіліся на заднім сядзенні аўтамабіля і не былі прышпіленыя рамянямі бяспекі.

## Раварыста збіў матацыкл

**МЯДЗЕЛ**

Здарэнне адбылося 7 жніўня каля дзевяці вечара ў гарадскім пасёлку Крывічы.

40-гадовы мужчына на матацыкле "Сузукі" наехаў на 14-гадовага раварыста, які раптоўна выехаў з другараднай дарогі.

У выніку падлетка з ўдарамі калена шпіталізавалі для далейшага абследавання.

**Паводле ДАІ Мінскай вобласці**

## Казулі пашкодзілі легкавыя аўтамабілі

**ВІЛЕЙКА**

Два здарэнні за тыдзень адбыліся ў Вілейскім раёне пры ўдзеле казуль.

У нядзелю, 7 жніўня, жывёла нечакана выскачыла на дарогу недалёка ад вёскі Вязынь. Такое ж здарэнне адбылося на мінулым тыдні.

У абодвух выпадках ахвяр няма. Пашкоджаны легкавыя аўтамабілі.

Казулі не пацярпелі.

Пра здарэнне расказала намеснік начальніка Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка**.

**Аддзел інфармацыі.**

## У спрэчцы са сваёй жанчынай мужчына параніў сабе палавы член

**МАЛАДЗЕЧНА**

Як паведамляе партал "Край.бай", у Маладзечанскую цэнтральную раённую бальніцу на мінулых выхадных паступіў 50-гадовы мужчына з нажавым раненнем палавога члена. Як аказалася, крымінальнага следу ў гэтым здарэнні не было.

Дактары бальніцы распавялі карэспандэнтам партала, што не звярталіся ў міліцыю, бо адразу высветлілася, што пацярпелы параніў сябе сам. Урачэбная таямніца не дазваляе агучваць усе падрабязнасці інцыдэнту і дакладныя дадзеныя пацыента. Пацвердзілі толькі, што такі выпадак сапраўды быў. Раненне там не цяжкае, мужчына павархоўна парэзаў скурку члена. Яму наклалі два швы. Пашкоджанаму органу зараз нішто не пагражае.

Прычынай здарэння стала сварка мужчыны з жанчынай, з якой ён жыве. Пакрыўдзіўшыся на яе, мужчына вырашыў такім чынам ёй адпомсціць.

Псіхіятры гэта называюць "сітуацыйнай рэакцыяй".

– Нехта рэжа вены, гэты мужчына парэзаў іншую частку свайго цела, – сказалі ў медыкі.

– Ніякіх каментарыяў. Гэта асабістая інфармацыя пацыента. Захоўваючы ўрачэбную таямніцу, я нічога не магу сказаць, – адказаў карэспандэнтам аддзела інфармацыі нашай газеты намеснік галоўнага доктара **Ігар Салагуб**.

**Аддзел інфармацыі.**



Такі грыбнік не разгубіцца ў лесе. Фота survival.jofo.ru.

# Будзьце ўважлівымі ў лесе

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Раённы аддзел унутраных спраў перакаанаўча просіць быць уважлівымі ў лясах.**

Калі збіраецеся ў лес адзін ці з кампаніяй папярэдзіце пра гэта сваякам, суседзям, сябрам.

Ужо на месцы звярніце ўвагу на буйныя арыенціры паблізу: раку, дарогу, чыгуначную станцыю.

Абавязкова вазьміце саставы тэлефон, папярэдне зарадзіце яго і папоўніце баланс. Спецыялісты рэкамендуюць надзець на шыю свісток.

Таксама вельмі важна ўзяць больш ежы, цёплых рэчаў, нож, компас, зручны абутак. А яшчэ – неабходныя лекі, уключаючы бінт з ёдам, набор запалак у воданепранікальнай упакоўцы, плашч-дажджавік, невялікі запас грошай.

Рэкамендуюць апрануць яркую вопратку. Камуфляжная форма будзе толькі ўскладняць пошукі, паколькі зліваецца з дрэвамі.

Калі заблукаеце, не панікуйце. Паспрабуйце вярнуцца туды, адкуль разышліся са спадарожнікамі. Калі нікога не знойдзіце, шукайце любую сцежку, праседку або лінію электраперадач. Знайшлі арыенцір – трымайцеся яго і нікуды не зварочвайце.

Ніколі не пераходзьце раку і балота. Лепш ісці ад іх у процілеглы бок.

Для начлегу неабходна распаліць вогнішча на ўзвышшы ля вялікага дрэва. Ляжаць трэба тварам да вогнішча і не спаць: магчыма, дапамога ўжо дзесьці побач, а вы не пачуеце.

Калі чалавек не вярнуўся ў прызначаны час, а яго спадарожнікі сцвярджаюць, што з лесу ён не выходзіў, блізкім неабходна паведаміць пра гэта ў міліцыю.

Не спрабуйце працягваць пошукі самастойна.

**Валянцін АСІПОВІЧ,**
**начальнік Маладзечанскага РАУС.**

## Затрымалі браканьера на Вілейскім вадасховішчы

**ВІЛЕЙКА**

Пачаўся адміністрацыйны працэс у адносінах 34-гадовага мінчаніна, які знаходзіўся з забароненымі прыладамі для рыбнай лоўлі на беразе вадасховішча.

Пра гэта расказаў начальнік Мядзельскай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і раслиннага свету **Валеры Кляноўскі**.

Калі мядзельскія інспектары выехалі на месца, яны ўбачылі мужчыну, які перабіраў сеткі на беразе Вілейскага вадасховішча. Яго затрымалі. У мужчыны аказалася пяць сетак даўжынёй больш за 200 метраў.

– Месца, дзе затрымалі правапарушальніка, вельмі прывабнае для браканьераў: населеных пунктаў побач няма. Бліжэйшыя вёскі Кобузі і Матчыцы знаходзяцца далёка. Таму да гэтага месца асаблівая ўвага, – адзначае Валеры Кляноўскі. – Дзякуючы грамадскім інспектарам, удаецца затрымаць браканьераў.

За некалькі дзён да выпадку з мінчанінам на тым жа месцы затрымалі двух мясцовых жыхароў, якія спрабавалі лавіць рыбу сеткамі. Адзін з іх у лютым ужо прыцягваўся да адказнасці за браканьерства.

– Хоць сетак у няўдалых рыбаловаў было тры, а ўлоў заважыў толькі на дзесяць з паловай кілаграмаў, але прычыненая наваколнаму асяроддзю шкода склала 441 рубель (210 базавых велічынь), – адзначыў старшы дзяржінспектар інспекцыі **Уладзімір Хіла**.

**Аддзел інфармацыі.**



За незаконную лоўлю рыбы правапарушальніку пагражае штраф ад 10 да 50 базавых велічынь (ад 210 да 1050 рублёў).

## У Вілейцы загарэўся пакой – прычынай стаў няспраўны манітор

**ВІЛЕЙКА**

3 жніўня каля сёмай гадзіны вечара на другім паверсе двухпавярховага дома па вуліцы 17 Верасня загарэўся пакой.

Калі прыбылі першыя падраздзяленні, з вокнаў дома ішоў дым.

Загаранне адбылося ад няспраўнага манітора. Перад гэтым 13-гадовы сын гаспадароў гуляў на камп'ютары. Не выключыў яго і пайшоў з двухгадовай сястрой на вуліцу. Бацькоў якраз дома не было, яны ад'ехаліся на 10 хвілін.

Агонь пашкодзіў камп'ютар і камп'ютарны стол, паліцы з кнігамі, закураны столь і два суседнія пакоі.

**Паводле Вілейскага раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях.**

# "Цяпер дзень ці ноч? Якая гэта краіна? А якой вылятаем?"

## Як гэта – быць бортправадніцай Катарскіх авіяліній і абляцець увесь свет

МАЛАДЗЕЧНА

**Прафесія стюардэсы для многіх падаецца лёгкай і рамантычнай. Ці так гэта, распавядае былая бортправадніца з Маладзечна Ганна Шыянок, якая цягам года працавала ў Катарскіх авіялініях.**

### Як праходзіць адбор: ніякіх шрамаў і біжутэрыі

Я скончыла маладзечанскую гімназію №6, а пасля Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт па спецыяльнасці "перакладчык японскай і англійскай моў". Калі прыйшла дамоў пасля выпускнога, стала так пуста і страшна. Пачалося дарослае жыццё, а што з ім рабіць – я не ведаю.

Пабачыла выразку на стале, яе мама падлажыла, што ў Мінску будзе набор сцюардэс. Я вырашыла, што гэта для мяне – і свет пагляджу, і грошай зараблю. Так і атрымалася. Сябры і бацькі вельмі падтрымлівалі, без іх нічога не атрымалася б.

Гэта быў першы набор у Беларусі на пасаду бортправадніка ў Катары (арабская дзяржава на Аравійскім паўвостраве – Аўт.). Спачатку было чатыры патрабаванні да кандыдатаў: узрост ад 21 года; ніях татуіровак, радзімых знакаў і шрамаў на целе; на дыбачках з выцягнутымі рукамі даставаць да адзнакі ў 212 см; добрае валоданне англійскай мовай і сярэдне-спецыяльная адукацыя.

Пасля ідзе шмат этапаў адбору. Мы з сяброўкай рыхтаваліся не на жартачкі – пералапацілі ўвесь інтэрнэт, каб ведаць, пра што будуць пытацца. Калі нас сабралі ў мінскім офісе і праводзілі прэзентацыю кампаніі, то задавалі пытанні: ад года заснавання авіякампаніі да значэння эмблемы. Калі ты ведаеш загадзя, то гэта вялікі плюс – ты паказваеш, што разумееш, куды ішоў.

На сумоў'і знешні выгляд павінен быць ідэальным. Белая кашуля з кароткім рукавом, запраўленая ў спадніцу, якая прыкрывае калені. Цялесныя панчохі, чорныя туфлі на абцасе з закрытым носікам. Ніякіх упрыгожванняў, толькі гадзіннік, калі завушніцы – толькі цвічкамі, лепей з перлінкай. Абавязкова касы прабор, пярэдняя пасма валасоў зачасаная набок, валасы сабраныя ў нізкі пучок. З касметыкі толькі яркая памада, танальнік, румяны і туш. І лепей французскі манікюр.

Пасля быў тэст на веданне англійскай мовы – граматыка плюс эсэ. Пасля гэтага называлі нумары, якія прайшлі далей. І мой шчаслівы №15 таксама прагучаў. Пасля была яшчэ адна праверка англійскай, і далей – асабістае сумоўе. Усе дакументы дасылаюцца ў галоўны офіс у Доху (сталіцу Катара), дзе і прымаецца канчатковае рашэнне. І праз два тыдні мне даслалі квіткі на самалёт.



Фота забяспечана Ганнай ШЫЯНОК

Фотаздымак на фоне новага віду з вакна – абавязковы па прылёце ў новую краіну.

### "Каму выплаціць грошы ў выпадку вашай смерці?"

Самым складаным было жыць у Катары, на ўзбярэжжы Персідскага заліва. Цудоўнае месца, але толькі не летам, калі на вуліцы 50 градусаў гарачыні і тэмпература вады амаль даходзіць да тэмпературы кіпення. А пясок на пляжах дарагіх гатэлеяў замяніла марская соль. Невыносна гарачае і вільготнае паветра апальвае лёгкія знутры.

Там вы не пабачыце "Аўдзі" – толькі "Лексусы" і японскія машыны. Хаця гэта не дзіўна, бо арабскі свет ніколі не славіўся сціпласцю. Раніца пачынаецца вельмі рана з мусульманскай малітвы, якую чуваць праз балкон. Гэта вельмі гучна і страшна з непрывычкі.

Навучанне ідзе штодзённа цягам двух месяцаў. Мы жылі ў трохпакаёвай кватэры з двюма ваннымі. Са мной у пакоі жылі дзяўчаты з Сербіі і з Індыі.

Вучоба пачыналася а шостай раніцы. Мы ў рэальных умовах праходзілі пасадку на ваду, тушылі пажары, вывучалі будову самалёта, сервіс і стандарты кампаніі. Шмат урокаў было па бяспецы, аказанні першай дапамогі. Усё вельмі строга, з экзаменамі, дрыжачым голасам і бегаючымі вачыма. Побач сядзіць чалавек, які запісвае твае памылкі – прытомнасць страціць можна ад хвалявання!

Страшны той момант, калі разумееш: праз пару тыдняў я не вярнуся дамоў. Цяпер мой дом – арабская краіна.

> **Нам далі падпісаць паперу, у якой мы ўказвалі, каму выплаціць наш заробак у выпадку крушэння самалёта… Тады ты ўжо не думаеш пра падарожжы. Толькі пра дом і бацькоў.**

Разумееш, наколькі яны табе дарагія, наколькі далёка ты ад іх і як доўга яшчэ не зможаш іх абняць.

### "Вельмі многа смешных сітуацый было з расіянамі"

Беларусак на той момант працавала мала – чатыры дзяўчыны. І адна беларуска з Літвы. Мы вельмі сябравалі, жылі побач, вучыліся разам. Гэта вельмі дапамагала не з'ехаць з глузду. З літоўскай беларускай мы дагэтуль сябруем. Але агулам каманда рэйса заўсёды мяняецца, за год я ні разу не сустрэлася двойчы з адным і тым жа чалавекам.

Працуеш выключна на англійскай мове. Размовы на іншых мовах строга забароненыя – каманда на борце заўсёды інтэрнацыянальная, усе павінны разумець, пра што гаворка.

Заўсёды смешна было лётаць у Расію. На бэйджыку у мяне было напісана не "АННА", а "HANNA", таму яны не ведалі, што я разумею па-руску. Працаваць-та мы павінны толькі на англійскай. Вось так падыходзіш да пасажыра, і пакуль наліваеш яму каву, слухаеш, як яны абмяркоўваюць цябе, тваю форму, абслугоўванне. І так увесь палёт. І толькі калі яны выходзяць з самалёта, ты ім усміхаешся і каментуеш іх выказванні ўжо на рускай мове. Іх твары я ніколі не забуду!

### "Я змагла памацаць свае сны"

Я адпрацавала адзін год. Звольнілася нашмат раней, чым скончыўся кантракт, па розных прычынах. За гэты час пабывала на ўсіх кантынентах. Колькасць краін? Складана назваць, мне падаецца, я ва ўсіх была.

Спачатку было вельмі цяжка. Першыя два палёты былі ў Пакістан і Кувейт. Такога болю ў нагах я не адчувала, нават калі працавала афіцыянткай 20 гадзін запар. Вельмі балела галава, не хапала паветра. Але да ўсяго прывыкаеш. Сёння ты ў Парыжы, заўтра ў Японіі.

Цяжка адаптавацца да такіх тэмпаў, здароўе пахіснулася, вядома. Калі прачынаешся ў гатэлі, тэлефануеш на рэцэпцыю і задаеш тры стандартных пытанні: цяпер дзень ці ноч? Якая гэта краіна? Праз колькі адлятаем?

Але гэта было таго варта! Вольнага часу ў кожнай краіне было шмат: ад 24 гадзін да 4 сутак. Усё залежыць ад далечыні пералёту. Паколькі Катарскія авіялініі пяцізоркавыя, то і жылі мы за кошт кампаніі толькі ў пяцізоркавых гатэлях.

Мне вельмі спадабаўся Лондан. Не ведаю, чаму Англію называюць дажджлівай, шэрай і стрыманай. Лондан – свабодны, адкрыты горад, у які я цяпер закаханая. Чырвоныя двухпавярховыя аўтобусы, дзесяціпавярховыя кнігарні, паўсюль дробязі з Гары Потэрам… Гэта абавязак кожнага чалавека – пабачыць Англію!

На Сэйшэльскіх выспах я глядзела на мора, не адрываючыся некалькі гадзін. Бачыла, як мяняецца яго колер, вышыня хваляў, хуткаць, як мяняецца неба і сонца над ім. Чула, як шапацяць пальмавыя галіны і крычаць птушкі над джунглямі. Было адчуванне, што я пабывала ў сваіх снах. Бачыла іх у рэальнасці. Магла іх памацаць.

Людзі паўсюль вельмі розныя, толькі праблемы і жыцці ва ўсіх аднолькавыя. Гэта разумееш толькі тады, калі пабачыш увесь свет. Таму рана ці позна прыходзіць думка пра тое, што лепш за дом няма месца.

Гэта міф, што ў сцюардэс увесь пашпарт у візах. Так, некаторыя краіны (ЗША, Катар) адкрываюць персанальныя візы. Але ў іншыя дзяржавы лётныя саставы пускаюць па спецыяльным пропуску, тыпу ідэнтыфікацыйнай карткі. Так што мой пашпарт нічым не адрозніваецца ад іншых.

### "Які сэнс у шыкоўным гатэлі, калі ты ў ім адна?"

Я не адкладала ніякіх грошай з заробкаў. У мяне была іншая мэта – пабачыць свет. Вядома, калі вы будзеце прылятаць у Кейптаўн і бязвылазна сядзець у гатэлі, то назбіраеце на новую машыну, а праз пару год – і на кватэру. Але які ў гэтым сэнс?

Я аддавала ўсе грошы на тое, каб глядзець горад, каштаваць нацыянальную кухню, хадзіць у тэатры і паркі, знаёміцца з мясцовымі.

Падарожжы – гэта цудоўна. Людзі павінны кожны год ездзіць не на мора ў Турцыю, а адкрываць новую краіну. Але нельга гэта рабіць адной. Я сядзела на Мальдзівах на свой дзень нараджэння, на пляжы ў шыкоўным гатэлі. Любавалася ідэальным заходам сонца, слухала ідэальнае мора. Але я сядзела там адна.

І не было каму сказаць, якое неверагоднае ўсё навокал. Гэта і было асноўнай прычынай майго вяртання дамоў.

Цяпер я працую фітнэс-інструктарам у Мінску. Сумую толькі па адным – адчуванню неба пад нагамі. Як пасажыр цяпер езджу толькі на цягніках. Самалёты засталіся недзе там, у прыгожых успамінах. І я не хачу іх псаваць.

**Аляксандра ПАРАХНЯ.**

**Больш фота на сайце**



# Маладыя мастакі зарабілі на ўласную майстэрню ў Вілейцы

ВІЛЕЙКА

**Чаму маладыя мастакі адмовіліся ад сталічнага бамонда на карысць Вілейкі, як жывецца керамістам з маленькім сынам і ў чым сакрэт, як пражыць сям'і, у якой і муж, і жонка творцы.**

Двор Веры і Уладзіміра вылучаецца тым, што адразу відаць: свежая будоўля. За цагляным домам гонар гаспадароў – двухпавярховая майстэрня. Аддзелка яшчэ не закончаная, але ёсць месца для працы. Маладыя людзі даказалі, што калі моцна нешта хацець, нават асабістую майстэрню, гэтага дасягнуць можна.

Напрыклад, толькі цяпер, праз пяць год пасля пераезду і пасля асноўных работ па майстэрні прыйшла чарга пракладаць каналізацыю. Як лічаць гаспадары, кожны выбірае сам, што яму важней – выгоды ці здзяйсненне мары. Пра свае поспехі Вера і Уладзімір распавялі карэспандэнту "РГ".

**Вера Каўзановіч** і **Уладзімір Матораў** жанатыя пяць год. Ажаніліся, калі ўжо пераехалі ў Вілейку. Тут яны стварылі сям'ю, тут арганізавалі керамічную майстэрню "Zolak". Сыну **Сцяпану** тры гады, пачаў хадзіць у садок. Падчас нашай размовы хлопчык гуляе з глінянымі вырабамі і іншымі рэчамі ў майстэрні.

## Чаму з'ехалі з Мінска

**Вера**: Там мы знікалі. Губляецца сэнс: тое, што ты робіш, ты робіш для таго, каб быць у Мінску. Аплаціць жыллё, аплаціць майстэрню, і не хапае часу на сябе.

Я вырасла ў Вілейцы, і для мяне гэта сваё, арганічнае асяроддзе. Нам падабаецца, адчуваем сябе камфортна, тут – мы гаспадары свайго жыцця. Мы вырашаем, чым займацца, не залежым ад кватэр, нас не паглынае горад. Наадварот, будуем творчыя планы.

**Уладзімір**: У Мінску я здымаў майстэрню ў падвале 9-павярховага дома. Яе часта затаплівала. Раніцай прыходзіш на працу, адчыняеш дзверы, а там – пааааах! Выклікаеш службы, чакаеш, пакуль прыедуць. Летам блохі скакалі. Аднойчы зайшоў у белай майцы, праз нейкі час гляну – яна ўся чорная, у блохах.

Пасля вучобы тры гады жылі ў Мінску. Вера працавала два гады ў вілейскім доме рамёстваў па размеркаванні, а пасля год дызайнерам у Мінску.

**Вера**: З часам зразумелі, што ты сам фарміруеш асяроддзе, а не Мінск. А мінская стомленасць толькі шкодзіць творчасці.

## Будоўля

**Уладзімір**: У Вілейку пераехалі ў 2011 годзе. На месцы майстэрні была гаспадарчая пабудова, хацелі яе перарабіць. Але будаўнікі сказалі, што лепш паставіць цалкам новы будынак.

**Вера**: Тут не было нічога, акрамя паловы разбуранага дома. Гэтая палова засталася мне ад бабулі, а ў другой палове быў проста прытон. Ён згарэў, частка дома выгарэла.

Каробку будавала брыгада, а астатнія працы рабілі самі. Вова стаў і тынкоўшчыкам, і плітачнікам. Складана, вядома. Яшчэ не дапрацавана, але сяброў ужо запрашаем, не чакаем, калі будзе цалкам гатова.

**Вера**: Пачалі ў двары будаваць майстэрню з тым разлікам, што першы паверх для керамікі, а другі – мастацкі.

Мы адначасова і працягваем будаваць майстэрню, і працуем у ёй.

## Як прыйшлі да творчасці

**Уладзімір**: Нарадзіўся я ў Магілёве. Не скажу, што было звышскладана пераехаць у Вілейку. Тут была перспектыва пабудаваць майстэрню.

Пасля школы не хацеў вучыцца там, дзе ёсць фізіка і матэматыка, таму паступіў у Магілёўскі каледж мастацтваў. Там і захапіўся керамікай.

У 2002 годзе паступіў ва Універсітэт культуры. Там была выкладчык **Тамара Васюк**. Асоба цікавая, з якой былі складаныя адносіны. Творчыя людзі могуць быць неадэкватнымі, дык вось яна такая, але ў добрым сэнсе. Там, ва ўніверсітэце і пазнаёміліся з Верай.

**Вера**: Я займалася ў **Эдуарда Мацюшонка**, а рыхтуючыся да паступлення ездзіла займацца ў Маладзечна да **Анатоля Акуліка**. Ён падрыхтаваў ён мяне так, што я паступіла з першага разу пры конкурсе 15-20 чалавек на месца.

А пачалося ўсё з таго, што выхавальніца ў дзіцячым садку сказала: "Ваша дачка малюе лепш за ўсіх", маці паўсміхалася. А я працягвала маляваць. Мой брат стаў музыкантам, вядомы пад імем **Андрэй Старбластэр**, учора прыехаў з Масквы, дзе выступаў на канцэрце.




Фота Зоі ХРУЦКАЙ

У майстэрні Веры Каўзановіч і Уладзіміра Маторава ў Вілейцы ёсць месца і для творчасці, і для гульняў сына Сцяпана.

А мама **Зоя Каўзановіч** працуе дырэктарам у Цэнтры падрыхтоўкі і перападрыхтоўкі кадраў. У дзяцінстве малявала, але паступаць пабаялася. Бацька **Аляксандр** працуе электраманцёрам.

## Кераміка і акварэль

**Вера**: Ва ўніверсітэце пазнаёмілася з выкладчыкам **Уладзімірам Рынкевічам**, які адкрыў мне космас акварэлі. Я валодаю базай, тэхнікай, маю мастацкі густ, і гэта дазваляе мне дапамагаць мужу з керамікай. Але гэта не матэрыял майго жыцця. Ім для мяне стала акварэль.

Нашы аднагрупнікі арганізавалі творчую групу, і разам займаемся ўвасабленнем творчых задум, ладзім пленэры. Абрала канцэпцыяй вандраваць па мясцінах мастакоў. Напрыклад, да юбілею Напалеона Орды ездзілі па месцах, звязаных з яго імем.

У Беларусі ёсць пэўны застой у мастацтве, гэта тычыцца не толькі акварэлі. Мы развіваемся вельмі паступова. За мяжой бушуе канцэптуальнае мастацтва, якое выйшла на першы план – не існуюць працы асобна ад канцэпцыі. Мы жа жывём акадэмічнымі прынцыпамі – малюем, тое, што бачым, каб было прыгожа. І ў выніку атрымліваем мастацтва для мастакоў.

**Уладзімір**: Вера ладзіць у Мінску ў прыватнай студыі майстар-класы па акварэлі. На іх прыходзяць гаспадыні, людзі, якія хочаць паспрабаваць сябе ў мастацтве або творчыя людзі, якія хацелі б навучыцца новай тэхніцы.

## Пра грошы і мастацтва

**"РГ": У сям'і абодва займаюцца творчасцю, мастацтвам. Гэта для сям'і фінансавая трагедыя?**

**Уладзімір**: У нас ніколі не было вялікай прагі да грошай. Мы задаволеныя тым, што маем.

**Вера**: Жыццё такое, якім мы яго ўспрымаем. Шчаслівы не той, у каго шмат грошай, а той, у каго ёсць патрэбнае. Жыць мастацтвам дастаткова складана, але мы разумеем, для чаго гэта трэба. Мы будуем унутраны камфорт, шукаем сябе як асоб. І мэта наша – пошук унутранай гармоніі. Таму імкнуцца зрабіць нацяжную столю мы не будзем, калі можна сэканоміць, абмежаваўшыся драўлянай. І шпалеры з шаўкаграфіяй браць не будзем, калі сцены можна проста пафарбаваць.

**"РГ": Вы зарабляеце толькі са сваёй творчасці?**

**Уладзімір**: Летам ездзім па фэстах з керамікай. Здаем тавар у крамы на продаж. Праз інтэрнэт прымаем замовы. Так і зарабляем. Напрыклад, да нас прыехаў прадпрымальнік з курортнага пасёлка Нарач і заказаў серыю сувеніраў. Распрацавалі ідэю, вырабілі і аддалі яму на продаж.

**Вера**: Прадаваць акварэль больш складана. У спецыялізаваных крамах могуць ісці. Але акварэль для продажу павінна быць адаптаванай.

**"РГ": З продажу прац вы займаліся будоўляй дома і паставілі майстэрню?**

**Вера**: Майстэрню так, а з домам дапамагалі бацькі. Мы вывезлі шэсць прычэпаў смецця.

Гаворым з калегамі – у большасці майстэрні няма. Працуюць хто на кухні, хто на балконе. Гэта была звышзадача – майстэрня. І мы проста кінуліся ў будаўніцтва. А потым стаміліся і зразумелі, што трэба зрабіць перапынак. Магчыма, цяпер мы б за такое і не ўзяліся. Трэба выкарыстоўваць момант, калі ёсць жаданне штосьці зрабіць.

Са Сцяпанам часта выязджаем на прыроду, бяром на пленэры – возім ад года. Часам спрабуе ляпіць чарвячкоў. Наша дзіця жыве жыццём бацькоў. У маіх знаёмых дзеці не ведаюць, што такое лес, і ніколі не бачылі кароў. Сцёпа ўжо ведае літары і лічыць да ста.

## Як атрымліваюцца вырабы з керамікі

**Уладзімір**: У кар'еры Гайдукоўка ля Радашкавічаў купляем гліну – шэсць тон. Два дні фасуем у мяшкі і носім у паветку. Пасля патрэбную колькасць трэба замачыць. Затым праз сіта працадзіць – атрымаецца шлікер, падобная па кансістэнцыі да кашы вадкая гліна. Каб з ёй можна было працаваць, трэба заліць у гіпсавыя формы. Гіпс усмоктвае лішнюю вільгаць. Калі раніцай заліць у формы, то вечарам можна даставаць.

Пасля можна скруціць шарык, кінуць на ганчарнае кола і зрабіць, напрыклад вазу. На ганчарным коле я ствараю форму. Затым выраб трэба сохнуць каля 4-5 дзён. Пасля ставіцца ў печ і пры тэмпературы каля 900 градусаў абпальваецца. Дзень абпальваецца, і яшчэ дзень стыне. За гэтым ідзе дадатковая апрацоўка – малачэнне, абвар, васкаванне і іншыя.

Мы працуем у традыцыйнай тэхніцы, і ніякіх фарбаў не наносім. Выкарыстоўваем пчаліны воск, адбіткі лісцікаў, якія збіраем са Сцяпанам.

У Беларусі даволі шмат керамістаў, у гэтая канкурэнцыя ўзмацняе нас. А між сабой мы не канкуруем, давяраем адзін аднаму як мастакі.

**Вера**: Нам нашмат прасцей з-за таго, што мы выдатна разумеем адзін аднаго, і разумеем, што хочам ад жыцця і ад партнёра. У адзіночку мы б такі шлях не пераадолелі.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

Больш фота на сайце Rh.by

# Чаму Валожын быў еўрапейскім цэнтрам іудзейскай адукацыі

*Заканчэнне. Пачатак у №№29, 30, 31, 32*

**ВАЛОЖЫН**

**За сваю больш чым 600-гадовую гісторыю Валожын быў зусім розным па сваім этнічным складзе – літоўскім, польскім, яўрэйскім, беларускім.**

Ад верасня 1939 года Валожын – у складзе Савецкага Саюза. Большасць яго яўрэйскага насельніцтва сустрэла савецкія войскі вельмі прыязна. Многія пачалі верыць у тое, што становішча яўрэяў у Савецкім Саюзе будзе не такім трагічным, якім яно было ў передваеннай Польшчы. Аднак рэчаіснасць апынулася далёкая ад чаканняў.

### Жыццё яўрэяў пры саветах

Дробны гандаль і дробныя рамесныя прадпрыемствы не былі адразу нацыяналізаваны. Але цяжкія падаткі, прадпісанні адпускаць тавары па ўсталяваных цэнах, указанне прымаць у плату за іх нароўні са злотымі савецкія рублі (з разліку рубель роўны злотаму) прывялі да масавага закрыцця яўрэйскіх гандлёвых і рамесных прадпрыемстваў. У Валожыне іх колькасць скарацілася ў 10 разоў.

Яўрэйскае культурнае жыццё, якое склалася, было разбуранае. Сістэма яўрэйскіх школ як рэлігійных, так і свецкіх, якая атрымала ў Польшчы значнае развіццё, была проста знішчаная. Былі закрытыя ўсе яўрэйскія газеты і часопісы, забароненых ўсе яўрэйскія грамадскія арганізацыі і палітычныя партыі.

Часовае павятовае ўпраўленне, створанае часцямі Чырвонай Арміі ў Валожыне, ліквідавала старыя органы дзяржаўнага кіравання разгромленай польскай дзяржавы. У Валожыне на прадпрыемствах горада былі створаны камітэты працоўнага кантролю.

Важным сродкам умацавання новай улады было стварэнне мясцовай міліцыі. Ужо ў верасні 1939 у Валожыне былі створаны атрады рабочай гвардыі. У канцы гэта ж года яны былі аб'яднаныя ў аддзел рабоча-сялянскай міліцыі. Многія з новых міліцыянераў, супрацоўнікаў іншых органаў адміністрацыі і судовай сістэмы былі камуністамі. Сярод іх былі і яўрэі. Для большасці мясцовага насельніцтва гэта было незвычайнай з'явай, бо прадстаўнікоў яўрэйскага насельніцтва на падобных пасадах ніколі не было. Першым начальнікам міліцыі ў Валожыне быў прызначаны яўрэй Янкель Роўкін.

Яўрэі-камуністы сталі часткай новай сістэмы ўлады і працавалі як інфарматары. Яны гэтак жа былі, дзякуючы лепшай адукаванасці, крынiцай кваліфікаваных кадраў для савецкай улады.

У лютым 1940 года ў Валожыне былі праведзеныя першыя масавыя арышты ворагаў савецкай улады. Былі арыштаваныя ўсе, хто быў у органах польскай дзяржаўнай улады, ваенныя, асаднікі, заможныя сяляне, кіраўнікі грамадскіх арганізацый і палітычных партый. Да іх былі аднесеныя яўрэі-капіталісты (Рапапорты, Пераельманы, Палякі), дзеячы Бунда, сіяністы ўсіх адценняў і нават уцекачы-яўрэі з іншых раёнаў Польшчы, якія знайшлі прытулак у сваякоў у Валожыне.

Аднак у мясцовага польскага і беларускага насельніцтва ў памяці адклалася не гэта, а тое, што дэпартацыю ажыццяўлялі яўрэі, якія працавалі ў органах савецкай міліцыі. Такія дэпартацыі з Валожына ў Казахстан за перыяд ад лютага 1940 года да чэрвеня 1941 былі праведзеныя чатыры. Менавіта гэта адаб'ецца на адносінах да яўрэяў з боку мясцовага польскага і беларускага насельніцтва ў часы будучай нямецкай акупацыі.

**Валожын быў акупаваны нямецкімі войскамі 26 чэрвеня 1941 года. Неўзабаве пасля акупацыі ў Валожыне было створанае гета. Была ўтвораная яўрэйская падпольная група антынацысцкага Супраціву.**



Фота radzima.org.

Надмагільныя пліты кіраўнікам Валожынскага ешыбота на яўрэйскіх могілках у Валожыне. Адна з іх належыць заснавальніку ешыбота Хаіму Валожынеру.

Ужо ў жніўні 1941 года на ўскраіне горада былі расстраляныя 45 яўрэяў. Другая акцыя адбылася ў верасні 1942 года. Гестапаўцы, якія прыехалі на дзвюх аўтамашынах, разам з мясцовымі паліцэйскімі расстралялі 225 яўрэяў у раёне польскіх казармаў і на вуліцы Дубінской. У студзені 1943 на ўскраіне Валожына, на вуліцы Шапавалаўскай, у ходзе трэцяй акцыі ў хляве для прасушкі лёну былі спаленыя жыўцом каля 400 яўрэяў. У чэрвені 1943 года на яўрэйскіх могілках у ходзе чацвертай акцыі былі расстраляныя больш за 1500 чалавек, у тым ліку дзяцей і жанчын.

**Часці савецкай арміі вызвалілі Валожын 5 ліпеня 1944 года. Ім дапамагалі партызанскія атрады, у якія ўваходзілі і яўрэі.**




Фота shtetle.co.il.

Помнікі ахвярам Галакосту на яўрэйскіх могілках у Валожыне.

### Дэнацыяналізацыя і русіфікацыя яўрэйскага насельніцтва

Пасля Другой сусветнай вайны яўрэйскае жыццё ў горадзе не было адноўленае. У пасляваенны перыяд Савецкая дзяржава праводзіла палітыку дэнацыяналізацыі і русіфікацыі яўрэйскага насельніцтва. На тэрыторыі БССР не было яўрэйскіх школ, газет, не выдаваліся яўрэйскія кнігі, не працавалі яўрэйская культурныя і рэлігійныя арганізацыі. Большасць яўрэяў Беларусі страціла сваю родную мову.

**У 1990-я гады на сродкі замежных яўрэйскіх арганізацый была прыведзеная ў парадак тэрыторыя яўрэйскіх могілак (яны былі абгароджаны плотам) і рэстаўраваны помнікі.**

У 1995 годзе на месцы масавага знішчэння яўрэяў быў пастаўлены помнік з надпісамі на беларускай мове і на іўрыце.

У 1997 годзе ў Валожыне жыло 14 яўрэяў. Сёння ў Валожыне жыве некалькі яўрэйскіх сем'яў, большасць з якіх прыезджыя.

Аднак у кожным камяні бруку Валожына, у старых дамах жыве памяць пра тое, калі на скрыжаваннях вуліц, у шматлікіх крамах гучаў разам з беларускай і польскай мовамі ідыш.

Амаль усё ў гісторыі Валожына звязанае з яўрэямі, якія ў 19 – пачатку 20 стагоддзя складалі большасць насельніцтва гэтага горада.

Пры напісанні артыкула выкарыстаныя матэрыялы Моўшы Пераельмана і І. Соркінай.

**Уладзімір ПУЧКОЎ,**
**навуковы супрацоўнік Валожынскага раённага краязнаўчага музея.**

**● КАЛЯНДАР**

**12 ЖНІЎНЯ**

**80 гадоў** назад (1936 год) у савецкім канцлагеры памёр Пётр Мятла, беларускі грамадска-палітычны дзеяч Заходняй Беларусі. Нарадзіўся ў 1890 годзе. Член Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі з 1926 года. У 1914 –1917 у арміі. Знаходзіўся сярод юнкераў Аляксееўскага ваеннага вучылішча, якія "выступілі супраць рэвалюцыі і паўстаўшага пралетарыяту". Адзін са стваральнікаў Беларускай сялянска-работніцкай грамады (БСРГ), член яе ЦК. Пасля разгрому 16 студзеня 1927 года арыштаваны і прыгавораны польскімі ўладамі да 12 гадоў турмы. У выніку абмену палітвязнямі з 1930-га апынуўся ў Мінску. Працаваў у Камісіі па вывучэнні Заходняй Беларусі пры Прэзідыуме Беларускай акадэміі навук, у ВСНГ БССР намеснікам начальніка планавання, начальнікам сектара кадраў. 1 верасня 1933 арыштаваны і прыгавораны да вышэйшай меры пакарання, якая заменена 10 гадамі лагераў. Зняволенне адбываў на будаўніцтве Беламорска-Балтыйскага канала. Памёр у лагеры. Рэабілітаваны.

**13 ЖНІЎНЯ**

**60 гадоў** назад (1956) памёр Якуб Колас, народны паэт Беларусі. Пахаваны на Вайсковых могілках у Мінску.

**1911 год.** Нарадзіўся Вінцэнт Склубоўскі (в. Малышкаўшчына, цяпер Ашмянскі раён), грамадска-культурны дзеяч, актывіст Таварыства беларускай школы, пасля Другой сусветнай вайны працаваў на Беласточчыне.

**14 ЖНІЎНЯ**

**1941 год.** Заключанае савецка-польскае пагадненне, на падставе якога створаная армія, дзе было шмат беларусаў (фарміравалася на тэрыторыі СССР у жніўні 1941 – сакавіку 1942 года, а потым была перакінутая ў Іран, Ірак, ваявала ў Афрыцы і Італіі).

**1941 год.** У Асвенціме загінуў Максімілян Кольбэ (1894 – 1941), рымска-каталіцкі дзеяч, які ахвяраваў жыццём за іншага чалавека. Пазней кананізаваны. З'яўляецца апекуном нарказалежных, палітычных зняволеных, журналістаў, радыёаматараў, вязняў і рухаў у падтрымку жыцця.

**16 ЖНІЎНЯ**

**60 гадоў** з дня заснавання (1956) у Мінску Літаратурнага музея Якуба Коласа (адкрыты для наведвання 4 снежня 1959 года, цяпер установа "Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа").

**Марыя БЕРАСНЕВА.**

# Новае тэрапеўтычнае аддзяленне адчынілі ў Смаргоні

СМАРГОНЬ

**Пасля капітальнага рамонту на мінулым тыдні ўрачыста адкрылі тэрапеўтычнае аддзяленне Смаргонскай раённай бальніцы. Пра нядаўнюю ўрачыстаць нагадвае прыўзняты настрой медыкаў і яркія паветраныя шары на калідорах.**


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Сястрынскі пост у тэрапеўтычным аддзяленні.

– **Ці доўга вы чакалі рамонту?** – пытаюся ў **Таццяны Пятніцкай**, загадчыцы тэрапеўтычнага аддзялення бальніцы.

– Чакалі вельмі доўга. Такога вялікага рамонту ў аддзяленні не было за ўвесь час існавання будынку, гэта значыць з 1984 года. Рабілі толькі дробныя касметычныя рамонты, – кажа мая субяседніца. Тры палаты, адну прыбіральню і мой кабінет адрамантавалі за спонсарскія сродкі яшчэ ў мінулым годзе. Калі я выходзіла са свайго новага кабінета ў калідор са старымі цёмна-сінімі сценамі, было адчуванне, што трапляю ў нейкае далёкае стагоддзе. Цяпер адрамантаваныя ўсе астатнія памяшканні і калідор. Сярод новых палат ёсць яшчэ "незаселеныя".

Рамонт доўжыўся шэсць месяцаў. Але на гэты час аддзяленне працу не спыняла. Яго скарацілі на дваццаць ложкаў і раздзялілі на дзве паловы: у адной будаўнікі рабілі рамонт, у другой дактары лячылі хворых.

## Калі доктар сапраўдны прафесіянал, абсталяванне другаснае

Мэблю ў палаты і кабінеты набылі яшчэ да рамонта. Цяпер у абноўленых палатах з'явіліся новыя тумбачкі, ложкі, на некаторых вокнах павесілі жалюзі, у кабінетах паставілі медыцынскія шафы. Абноўлены знешні выгляд спрыяе камфорту як хворых, так і дактароў. Як заўважыла загадчыца, нават тэхперсанал прыбірае з іншым настроем.

Са словамі Таццяны Пятніцкай пагаджаецца працэдурная медсястра **Таццяна Дудко.** Працэдурны кабінет стаў больш прывабным і ўтульным. Але размова з медсястрой атрымліваецца кароткай: у кабінеце яе чакаюць трое хворых.

**– Ці ўваходзіла ў задачы рамонту набыццё новага медыцынскага абсталявання?**

– Не. Абсталяванне набываецца і не ў час рамонту. І абсталяваная бальніца даволі добра. У аддзяленнях ёсць якасныя апараты ўльтрагукавога даследвання, эндаскапічная апаратура для даследвання ўнутранных оргрнаў. Асаблівы наш гонар – камп'ютарны тамограф, – распавядае Таццяна Пятніцкая.

Безумоўна, у невялікіх раённых бальніцах, і ў смаргонскай у тым ліку, не робяць складаныя аперацыі, напрыклад па кардыяхірургіі, і рабіць не павінны. Для гэтага ёсць абсталяванне ў сталічных медыцынскіх установах. І ўсё ж, на думку загадчыцы аддзялення, раённая бальніца ў Смаргоні па насычанасці абсталяваннем набліжаецца да маленькай бальніцы за мяжой.

А ўвогуле, лічыць Таццяна Пятніцкая, кадры ў медыцыне куды больш важныя за самае дарагое абсталяванне:

– Раней тэрапеўты мелі толькі фанендаскоп, каб паслухаць пацыента, і апарат, каб памераць ціск. Усе звесткі медыкі атрымлівалі ў час размовы з хворымі і назірання за імі. У медыцыне гэта называецца анамнэзам. Яго і сёння ніхто не адмяняў. Калі доктар – сапраўдны прафесіянал, сучаснае медыцынскае абсталяванне часта адыходзіць на другі план.

## Справы, лічбы і не толькі

Галоўнага доктара бальніцы **Сяргея Кудзенчука** мы знайшлі ў бальнічнай бухгалтэрыі. На пасадзе ён крыху больш за год. І за гэты час, па словах супрацоўнікаў, бальніца стала зусім іншай. Адбылося шмат станоўчых змен.

Сяргей Мікалаевіч да размовы далучаецца не адразу. Вырашае рабочыя справы з бухгалтарам. Удакладняе ў механіка, ці памянялі мост у бальнічнай машыне. Раіцца па тэлефоне наконт накіравання дзяцей у санаторый.

І нарэшце агучвае лічбы:

– На набыццё мэблі пайшло 25000 (250 мільёнаў) рублёў, на сам рамонт – 75000 (750 мільёнаў). Рамонт у аддзяленні мы змаглі зрабіць дзякуючы дзяржаўнаму фінансаванню, а таксама падтрымцы Смаргонскага райвыканкама, разуменню яго старшыні, які заўсёды ідзе нам насустрач.

Раней за дзяржаўныя сродкі, так званым гаспадарчым спосабам, у бальніцы ўжо адрамантавалі акушэрскае, неўралагічнае аддзеленні і частку хірургічнага. У бліжэйшых планах – рамонт у траўматалогіі і заканчэнне рамонту ў хірургіі. Усё гэта запланавана на 2017 год, калі не зменіцца фінансаванне.

**– Цяпер у бальніцах, як і ў большасці дзяржаўных устаноў, аказваюць платныя паслугі. Гэтыя грошы таксама пайшлі на рамонт?**

**– Не. За тыя грошы, якія атрымліваем ад платных паслуг, набываем абсталяванне, стараемся матэрыяльна стымуляваць супрацоўнікаў, якія аказваюць гэтыя паслугі,**

– кажа галоўны доктар.

**– А чым увогуле платная медыцына адрозніваецца ад бясплатнай?**

– Я не бачу тут асаблівых адрозненняў у якасці, – кажа Таццяна Пятніцкая. – Усе мы, дактары, заканчвалі адны і тыя ж навучальныя ўстановы. Я ўжо дваццаць год працую ў дзяржаўнай бальніцы. Не думаю, што мае адносіны да хворых і мае веды неяк змяніліся, калі б я пайшла працаваць у платны медыцынскі цэнтр. Платная медыцына – гэта зручнасць і камфорт для людзей, у якіх ёсць грошы.


Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

Працэдурная медсястра Таццяна Дудко.

Па словах супрацоўнікаў бальніцы, у дзень адкрыцця новага аддзялення было не толькі традыцыйнае перарэзанне чырвонай стужкі ганаровымі гасцямі. Для медыкаў і пацыентаў арганізавалі маленькі канцэрт.

**– Складана было галоўнаму доктару зладзіць урачыстае адкрыццё аддзялення з песнямі і паветранымі шарамі? – пытаюся ў арганізатара нядаўняга свята Сяргея Кудзенчука.**

– З вядучымі і спявачкай аддзел культуры райвыканкама бясплатна дапамог. А паветраныя шары купіў прафсаюз. Паверце, у параўнанні са зробленым рамонтам – гэта дробязі.



Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

Экспрэс-апытанне на тэму платнай медыцыны чытайце на 24-й старонцы.

# Дактароў з кожным годам у рэгіёне большае, сярэдняга персаналу прыходзіць менш

**Ад 1 жніўня ў бальніцах рэгіёна пачалі працаваць 89 дактароў. З кожным годам іх колькасць большае. У 2014 годзе маладых спецыялістаў прыйшло 72, праз год на аднаго болей. Цяпер іх пабольшала на 16 чалавек.**

А вось колькасць маладых спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй меншае. У 2014 годзе прыступілі да працы 140 работнікаў, праз год 125, сёлета на 17 спецыялістаў менш.

Зменшылася і колькасць вакансій у бальніцах і паліклініках рэгіёна.

Па-ранейшаму ў рэгіёне не хапае тэрапеўтаў. Яны патрэбныя на Смаргоншчыне, Маладзечаншчыне. Патрэбны і дактары вузкай спецыяльнасці.

На Ашмяншчыне не хапае доктара лабараторнай дыягностыкі і доктара ультрагукавой дыягностыкі, на Мядзельшчыне – фізіятэрапеўта і рэабілітолага. У Валожынскім раёне патрэбны оталарынголаг, педыятр у Івянецкую бальніцу, доктар лабараторнай дыягностыкі і рэабілітолаг. У Маладзечанскім раёне неабходныя дактары хуткай медыцынскай дапамогі і дактары агульнай практыкі.

А вось Астравец вызначыўся тым, што штам у бальніцах цалкам укамплектаваны.

**Галіна СУДНІКОВІЧ.**

**89** дактароў пачалі працаваць у рэгіёне ў пачатку жніўня

**ВАЛОЖЫН**
**7 ДАКТАРОЎ:**
- 2 псіхітра-нарколагі, доктара агульнай урачэбнай практыкі
- 1 хірург, педыятр, анколаг

**МЯДЗЕЛ**
**6 ДАКТАРОЎ:**
- 4 тэрапеўты
- рэнтгенолаг
- неўролаг

**ВІЛЕЙКА**
**7 ДАКТАРОЎ:**
- анестэзіёлаг-рэаніматолаг, доктар хуткай медыцынскай дапамогі, лабараторнай дыягностыкі, стаматолаг, анколаг, рэнтгенолаг, фтызіятр

**МАЛАДЗЕЧНА**
**35 ДАКТАРОЎ**
- 10 тэрапеўтаў-участковых
- 6 акушэраў-гінеколагаў
- па 2 рэаніматолагі, оталарынголагі, рэнтгенолагі, траўматолагі-артапеды, участковыя педыятры
- 3 доктара лабараторнай дыягностыкі
- 1 стаматолаг, хірург, дзіцячы хірург, невролаг, анколаг, афтальмолаг

**СМАРГОНЬ**
**13 ДАКТАРОЎ**
- 3 участковыя тэрапеўты
- 2 акушэры-гінеколагі
- 1 псіхатэрапеўт, траўматолаг, хірург, доктар хуткай медыцынскай дапамогі, анестэзіёлаг-рэаніматолаг, участковы педыятр, доктар агульнай практыкі, доктар лабараторнай дыягностыкі

**АШМЯНЫ**
**6 ДАКТАРОЎ:**
- Па 2 рэаніматолагі, доктара агульнай практыкі, оталарынголагі, афтальмолагі, тэрапеўты

**АСТРАВЕЦ**
**15 ДАКТАРОЎ:**
- 5 тэрапеўтаў
- 2 акушэры-гінеколагі
- 1 інфекцыяніст, доктар лабараторнай дыягностыкі, рэаніматолаг, стаматолаг, хірург, неанатолаг, педыятр, рэнтгенолаг

Фота pixabay.com.

Інфармацыю паведамілі спецыялісты аддзелаў кадраў цэнтральных раённых бальніц.

## Спецыялісты з сярэдняй адукацыяй і інтэрны, якія пачалі працаваць у рэгіёне

| Раён | Колькасць спецыялістаў з сярэдняй медыцынскай адукацыяй | Колькаць інтэрнаў |
|---|---|---|
| Астравецкі | • 22 медсястры | 3 па спецыяльнасці “тэрапія” |
| Ашмянскі | • фельчар | **3 інтэрны:**<br>• 2 па спецыяльнасці “участковы тэрапеўт”<br>• 1 па спецыяльнасці “хірургія” |
| Валожынскі | **13 медыцынскіх работнікаў:**<br>• 4 фельчары<br>• 7 медсясцёр<br>• 1 зубны фельчар<br>• 1 тэхнік-масажыст | |
| Вілейскі | **17 медыцынскіх работнікаў:**<br>• 7 медсясцёр<br>• 10 фельчараў | 1 па спецыяльнасці “стаматалогія” |
| Маладзечанскі | **26 медыцынскіх работнікаў:**<br>• 10 па спецыяльнасці “Лячэбная справа”<br>• 16 па спецыяльнасці “Сястрынская справа” | **41 інтэрн:**<br>• 6 па спецыяльнасці “промневая дыягностыка”<br>• Па 5 інтэрнаў па спецыяльнасцях “педыятрыя”, “акушэрства і гінекалогія”<br>• Па 3 інтэрны па спецыяльнасцях: “тэрапія”, “анестэзіялогія-рэаніматалогія”, “неўралогія”, “оталарынгалогія”, “клінічная лабараторная дыягностыка”<br>• Па 2 інтэрны па спецыяльнасцях “агульная лячэбная практыка”, “хуткая медыцынская дапамога”<br>• Па 1 інтэрне па спецыяльнасцях: “хірургія”, “стаматалогія”, “дэрматалогія-венералогія”, “інфекцыйныя хваробы”, “фтызіятрыя”, “афтальмалогія” |
| Мядзельскі | **21 медыцынскіх работнікаў:**<br>• 11 медсясцёр<br>• 8 фельчараў<br>• 1 тэхнік-масажыст<br>• 1 фельчар-лабарант | 6 інтэрнаў |
| Смаргонскі | **8 медыцынскіх работнікаў:**<br>• 3 фельчары<br>• 4 медсястры<br>• 1 фельчар-лабарант | **14 інтэрнаў:**<br>• 5 па спецыяльнасці “тэрапія”<br>• 2 па спецыяльнасці “доктар агульнай практыкі”<br>• Па 1 інтэрне па спецыяльнасці “педыятрыя”, “стаматалогія”, “хірургія”, “анестэзіялогія”, “невралогія”, “клінічная лабараторная дыягностыка” |


Фота Уладзіміра Амбрасевіча.

Момант матчу.

## Смаргонскае дэрбі завяршылася нулявой нічыёй

**СМАРГОНЬ**

На школьным стадыёне ў Залессі 6 жніўня прайшоў таварыскі матч паміж двума смаргонскімі камандамі: ФК "Смаргонь" і "Вілія". Матч завяршыўся ўнічыю 0:0.

– На вуліцы было спякотна, таму і гуляць было складана, – расказвае гулец "Віліі" Віталь Будай. – Мячом больш валодала "Смаргонь", але момантаў ствярала мала. Добра абараняў вароты наш галкіпер. Свае моманты мы не рэалізавалі, але іх, шчыра кажучы, было мала. Як вынік, безгалявая гульня.

**Аддзел інфармацыі.**

## У Кубку "Смаргонь" згуляе са "Слуцкам"

**СМАРГОНЬ**

У сталічным Доме футбола адбылося лёсаванне 1/8 фіналу Кубка Беларусі. Па яго выніках "Смаргонь" у гасцях згуляе са "Слуцкам". Уладальнікі пуцёвак у 1/4 вызначаць у адным матчы. Гульня намечана на 21 верасня.

## У цяжкай гульні "Вілія" вырвала перамогу

**ВІЛЕЙКА**

"Вілія" 7 жніўня ў матчы чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе прымала "СМІаўтатранс" са Смалявічаў. І хоць віляйчане перамаглі 1:0, тры ачкі даліся нялёгка.

– Каманда малайцом: выстаяла і забіла гол. У заяўцы "Віліі" 35 чалавек, а прысутнічала 13 гульцоў. Гэта, можа, нават і да лепшага: сапраўдныя і адданыя гульцы з камандай да канца, – разважае заўзятар "Віліі" **Артур Мінчук**.

У першым тайме больш небяспечна атакавалі госці. Яны нават зарабілі пенальці.

– Аднак наш варатар **Павел Лявошка**, як заўсёды, быў на вышыні. Ён не тое, што выцягнуў, а ўзяў мяч намертва, – працягвае Артур. – У другім тайме нашы гульцы завяліся. Небяспечна прабіваў **Аляксандр Грыхуцік**. І як пасля ўдару галавой **Вадзіма Ярашонка** абаронца адбіў мяч — адзін Бог ведае.

Але канцоўка матчу была за віляйчанамі. Гол уляцеў у вароты гасцей на 89-й хвіліне.

– **Віктара Сяліцкага** збіў варатар, а найдасведчаны **Дзмітры Вышынскі** спакойна рэалізаваў пенальці. Як заўсёды, вельмі добра згуляла пара бацькі і сына Вышынскіх, таксама **Ярашэвіч** з **Шабаном** у абароне, і капітан Грыхуцік ў паўабароне. Нарэшце, **Вадзім Ярашонак** атрымаў шанец згуляць ўсе 90 хвілін. І ён, мне здалося, скарыстаўся ім на ўра, хоць і прывёз пенальці ў свае вароты.

Пасля гэтай перамогі "Вілія" паднялася на шостае месца. Пасля 11 матчаў на рахунку каманды 16 ачкоў.

## "Сваткі" лідзіруюць у чэмпіянаце

**МЯДЗЕЛ**

У апошнім матчы чэмпіянату дваровай лігі Мядзельскага раёна "Свір" дома саступіла ФК "Сваткі " 3:7.

Раней 31 ліпеня гульцы са Свіры абыгралі "Юніян Нарач" з лікам 8:3. Хаця пасля першага тайму лік быў усяго 3:1.

Пакуль лідзіруе ў турніры ФК "Сваткі".

**Аддзел інфармацыі.**

# На дамашнім стадыёне перамаглі і "Іслач", і "Маладзечна-ДЮСШ-4"

**МАЛАДЗЕЧНА**

**Абедзьве каманды на гэтых выхадных парадавалі сваіх балельшчыкаў.**


Фота футбольнага клуба "Іслач".

Гледачы ахвотна фатаграфаваліся з паўваўком Майкам, талісманам "Іслачы".

### Вышэйшая ліга

Да матча з мікашэвіцкім "Гранітам" "Іслач" падрыхтавалася, не пакідаючы шанцаў саперніку ў барацьбе за заўзятараў. Футбалісты Мінскага раёна парадавалі і перамогай з лікам 3:2, і сюрпрызам для гледачоў.

Падтрымаць спартсменаў запрасілі талісман каманды – сумесь ваўка і сабакі Майка. Жывёліне накінулі сцяг "Іслачы", і Майк пакрасаваўся з ім на стадыёне, каб падбадзёрыць каманду.

Два галы ў гульні забіў абаронца **Аляксандр Шагойка**, яшчэ адзін – паўабаронца **Аляксандр Цішкевіч**.

У каментары для ФК "Іслач" Аляксандр Шагойка сказаў: "Цяпер адкрываецца добрая магчымасць пазмагацца за верхнія месцы. Не скажу, што за тройку, але за 4 ці 5 цалкам рэальна. Для каманды, якая толькі-толькі трапіла ў вышэйшую лігу, на мой погляд, будзе вельмі ўдалы вынік. Калі па выніках сезона мы будзем у тройцы – гэта будзе супер. Але трэба быць рэалістамі. Наўрад ці такое адбудзецца, але дай бог, каб з правіл былі выключэнні".

У наступны раз "Іслач" гуляе ў гасцях з мінскай камандай "Крумкачы". "Іслач" займае чацверты радок турнірнай табліцы, "Крумкачы" – другі пасля БАТЭ. Матч прызначаны на 12 жніўня.

Наступная дамашняя гульня "Іслачы" пройдзе 21 жніўня.

### Другая ліга

У 13 туры "Маладзечна-ДЮСШ-4" гуляла з "Нёманам-Агра" са Стоўбцаў. Гаспадары атрымалі бліскучую перавагу – лік гульні 4:1 на карысць маладзечанскай каманды.

Гэтая сёмая запар перамога, якая замацоўвае "Маладзечна-ДЮСШ-4" на трэцяй пазіцыі ў турнірнай табліцы.

Два гола з чатырох забіў паўабаронца **Сяргей Галюк**. Па адным голе на рахунку нападаючага **Ігара Талькоўскага** і абаронцы **Мікіты Харко**.

У суботу, 13 жніўня, зноў жа на дамашнім стадыёне "Маладзечна-ДЮСШ-4" сустракаецца з гомельскім "ДЮСШ ДСК", які займае 12-ы радок турнірнай табліцы.

**Аддзел інфармацыі.**

## Нашы на Алімпіядзе – баксёр і лёгкаатлет

**МАЛАДЗЕЧНА, АСТРАВЕЦ**

**Баксёр з Маладзечна Дзмітры Асанаў удзельнічае ў Алімпіядзе ў Рыа-дэ-Жанейра.**

Нагадаем, ліцэнзію на ўдзел у Алімпійскіх гульнях ён атрымаў летась у кастрычніку на чэмпіянаце свету ў сталіцы Катара Дохе.

Дзмітры выступае ў вагавай катэгорыі 56 кілаграмаў. Першы бой Дзмітрыя на Алімпіядзе быў намечаны на 10 жніўня ў вячэрняй частцы праграмы. Яго сапернік — баксёр з Дамініканы **Гектар-Луіс Гарсія-Мора**.

Дзмітрыю Асанаву — 20 год. Ён — бронзавы прызёр чэмпіянату свету-2015, сярэбраны прызёр Еўрапейскіх гульняў-2015. Дэбютант Алімпіяд.


Фота БелТА.

Дзмітры Асанаў.

Яшчэ адзін прадстаўнік рэгіёна – ураджэнец вёскі Варняны Астравецкага раёна 27-гадовы **Аляксандр Ляховіч**. Ён будзе выступаць у спартыўнай хадзьбе на дыстанцыі 20 кіламетраў.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота vk.com.

Аляксандр Ляховіч.

## Каманда з Валожына выйграла турнір у Ашмянах

**АШМЯНЫ, ВАЛОЖЫН**

**У Ашмянах 6 жніўня прайшоў турнір па футболе сярод камандаў 2007-2008 гадоў нараджэння.**

Удзельнічалі ў ім чатыры каманды: дзве з футбольнай акадэміі Fair Play з Ашмянаў, Валожына і "Спартак" з вёскі Калюга Смалявіцкага раёна.

Адразу каманды згулялі паміж сабой у групе, і ў адпаведнасці з занятымі месцамі – у паўфіналах.

– У адным з іх сышліся дзве каманды футбольнай акадэміі. Гэтым разам перамагла другую з лікам 5:0, – расказаў трэнер і заснавальнік футбольнай акадэміі Fair Play **Аляксандр Кушнер.**

У гульні за трэцяе месца Fair Play-2 прайграла "Спартаку" 0:2.

У фінале турніру сустрэліся Fair Play-1 з камандай Валожына. У групе каманды завяршылі матч безгалявой нічыёй.

– А ў фінале нашых гульцоў было не пазнаць. Правал за правалам у абароне, невыразная гульня ў атацы і як вынік, буйны пройгрыш 1:8, – кажа Аляксандр.

– Лічу, што прычынай стала вялікае жаданне дзяцей паганяць мяч паміж гульнямі. Гэта прывяло да страты так неабходных на матч сілаў і паўплывала на канчатковы вынік.

**Аддзел інфармацыі.**




# Перац. Няма цаны гэтай гароднiне

**Люблю лета, калi ўсяго ўдосталь, а калi гэта яшчэ i вырасла на тваiм агародзе, то ўдвайне. Падыходзiш да градкi з перцамi, а яны цяпер там жоўтыя, чырвоныя, аранжавыя.**

Так i просяцца да цябе ў рукi. А яшчэ i якiя карысныя. Проста няма цаны гэтай гароднiне.

Мой рэцэпт лёгкi ў прыгатаваннi i смачны", – так распавядае мне **Галiна Рухля** з Маладзечна.

### Курыца ў перцы

4-5 балгарскiх перцаў (вялiкiя), 1 фiле курыцы, 2-3 памiдоры (невялiкiя), некалькi пярынак цыбулi, кроп, 2 ст. лыжкi ёгурту без дадаткаў, 100-150 г сыру цвёрдага, спецыi, соль.

Вычысцiце перцы ад унутранасцi. Толькi пакiдайце хвосцiкi, каб было больш месца для начынкi, якой будзеце напаўняць кожную палавiнку. Вядома, лепш браць вялiкiя перцы, тады порцыi будуць большыя. Але можна зрабiць перцаў больш, але з маленькiмi порцыямi мяса.

Для начынкi нарэжце курынае фiле невялiкiмi кавалачкамi, прыкладна 1х1 см. Так будзе больш зручна накладваць фарш у палавiнкi перцаў.

Асобна апрацоўвайце памiдорчыкi. Для пачатку знiмiце з iх скурку. Для гэтага закiпяцiце ваду i апусцiце ў яе памiдоры прыкладна на хвiлiну. Яны хутка астываюць, i скурка лёгка знiмаецца. Парэжце гэтыя памiдоры на маленькiя кубiкi, дзесьцi 0,5х0,5 см, больш не трэба.

Асобна нарэжце зялёную цыбулю i пятрушку.

Цяпер змяшайце нарэзанае курынае фiле, нарэзаныя памiдоры i зелянiну. Дадайце соль, перац i дадатковыя спецыi на смак. Сюды ж дадайце 2 ст. лыжкi ёгурту без дадаткаў. Усё добра перамяшайце.

На бляху выкладвайце палавiнкi перцаў. У кожную кладзiце ўжо гатовую начынку i стаўце ў папярэдне разагрэтую да 180-200 градусаў духоўку на 30 хвiлiн.

Праз паўгадзiны дастаньце бляху i пасыпце перцы надзёртым сырам. Яшчэ пастаўце на 10 хвiлiн – каб сыр расплавiўся i ўтварылася скарыначка. Смачна есцi!

**Проста МАРЫЯ.**



Кадр з фiльма "Тайнае жыццё хатнiх жывёл". Фота afisha.tut.by.

# Чым займаюцца хатнiя жывёлы, калi сыходзяць гаспадары?

**КIНО МАЛАДЗЕЧНА**

Прэм'еры гэтага мультфiльма чакалi не адзiн месяц не столькi дзецi, колькi дарослыя. А больш за ўсiх тыя, хто з узростам не перастаў любiць жывёлак i знайшоў у сваiм доме месца хаця б адной з iх.

Камедыя "**Тайнае жыццё хатнiх жывёл**" сустракае гледачоў iранiчным слоганам "Думаеце, яны ўвесь дзень чакаюць вас каля ганка?"

Чым займаюцца коцiкi, сабачкi i iншыя жывёлiны, калi гаспадары сыходзяць на працу? Самотна ўглядаюцца ў акно? Пазяхаюць на дыванку ля дзвярэй? Як бы не так! Яны вядуць тайнае жыццё.

Стваральнiкi паўнаметражных папулярных карцiн "Мiньёны" i "Гадкi я" на гэты раз перайшлi да новых герояў. Пасля запуска першага трэйлера кiнааматары былi ў чаканнi надзвычай смешнага i феерычнага мультфiльма – хто ж не помнiць пудзеля з арыстакратычнай годнасцю, якi пасля сыходу гаспадара адрываецца пад "System of a Down"? Гэта была проста бомба, якая накалiла градус чакання прэм'еры да найвышэйшай адзнакi.

А пры такiм чаканнi складана не застацца расчараваным, таму што нiхто не хоча прыйсцi на карцiну i атрымаць ад яе ўражанняў менш, чым ад трэйлера.

Сюжэт мультфiльма нескладаны. Пёсiк Макс жыў бесклапотным жыццём, пакуль гаспадыня не прывяла ў дом яшчэ аднаго сабаку. Макс не ўзлюбiў канкурэнта, памiж iмi так i ўспыхваюць канфлiкты.

Але атрымалася так, што сабакi апынулiся далёка ад дома, i iм давядзiцца аб'яднацца, каб сустрэцца з гаспадыняй.

У персанажаў шмат вясёлых прыгод, i смешных жартаў. Прыемная i дынамiчная карцiна стане добрым выбарам для сямейнага вечара.

Кiнапракат прапануе таксама для сямейнага прагляду фэнтэзi "**Пiт i яго дракон**". Гэта вельмi добрая i мiлая прыгода для душы.

**КIНО ВIЛЕЙКI**

Вiлейскi i маладзечанскi кiнатэатры запускаюць расiйскiя жахi "**Дыгеры**". Калi вас зацiкавiў слоган "Кожны дзень у метро спускаецца больш людзей, чым падымаецца назад", то карцiна разлiчаная на вас.

Уявiце начное метро за некалькi хвiлiн да закрыцця. Апошнi цягнiк ляцiць паўз канцавую станцыю. Пасажыры ў iм нiчога не разумеюць. Улады трымаюць у сакрэце гэтую падзею.

Праз некалькi дзён шукаць знiклых выпраўляюцца iх сябры. Iм давядзецца прыгадаць страшныя легенды i сутыкнуцца з рэальнасцю, якая аказалася яшчэ больш страшнай.

**Аддзел iнфармацыi.**

**Пра час i цану кiнасеансаў глядзiце ў рубрыцы "Рэпертуары" на нашым сайце**




## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 4 | 2 | | | | | |
| 8 | | | | | | 9 | 5 | 2 |
| | 2 | | | | 9 | 8 | 6 | |
| | | 2 | | 1 | | | | |
| | | | 3 | 8 | 7 | | | |
| | | | | 6 | | 3 | | |
| | 1 | 8 | 7 | | | | 4 | |
| 2 | 5 | 7 | | | | | | 9 |
| | | | | | 6 | 7 | | |

Запоўнiце ўсе пустыя клеткi з дапамогай лiчбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку i кожным раёне (3х3) лiчба ад 1 да 9 сустракалася толькi адзiн раз.



# Конкурс "Кулiнарны саквояжык": выйграйце бясплатныя шашлыкi на дзесяць чалавек

**Варыце, смажце, тушыце, запякайце, выпякайце… А апiсанне працэсу i фота дасылайце нам.**



www.timesofmalta

У падзяку за вашы стараннi вы будзеце чуць не толькi "дзякуй" ад блiзкiх, але i зможаце атрымаць каштоўны прыз ад "Рэгiянальнай газеты" i гаспадара банкетнай залы "Глушэц" ("Глухарь"), якая знаходзiцца ў Маладзечне па Ларына, 2-а.

Для гэтага вам дастаткова стаць удзельнiкам конкурсу – "Кулiнарны саквояжык".

Падзялiцеся рэцэптам сваёй фiрменнай стравы альбо страў з чытачамi. Дашлiце iх на электронную пошту regionnews@rh.by, пажадана з фотаздымкамi. Таксама вы можаце дзялiцца сваiмi сакрэтамi, як зрабiць страву смачнейшай, каб яе захацелася з'есцi разам з талеркай.

Конкурс будзе доўжыцца да 29 верасня. Вынiкi мы падвядзём у апошнi дзень месяца – 30 верасня.

За свае стараннi пераможца зможа пабыць з кампанiяй на дзесяць чалавек у банкетнай зале "Глушэц". Вас чакае вячэра поўная вясёласцi, шчаслiвых сяброўскiх успамiнаў… Аздабляць яе будзе адна з самых любiмых страў, якiя гатуюць на прыродзе, – шашлыкi.

Новых кулiнарных iдэй i ўдачы ў конкурсе.

**Аддзел iнфармацыi.**

## ГАРАСКОП 12-18 ЖНIЎНЯ



**Авен.** Пастарайцеся не хапацца за ўсе справы адначасова, плануйце свой распарадак дня i штосьцi рабiце сёння, штосьцi пакiдайце на потым, тады i вы будзеце цэлыя, i вынiк парадуе.



**Цялец.** Беганiна i паспешнасць пасялiлiся ў вашым жыццi. Так шмат усяго трэба зрабiць, а за што ўзяцца – незразумела. Не спяшайцеся, працуйце ў звычайным для вас рытме i вырашайце адно пытанне за другiм, пакуль усе яны не вырашацца.



**Блiзняты.** Вам неабходна пераасэнсаваць сваё жыццё, змянiць некаторыя погляды на яго. I калi гэта не зрабiць свядома, то рана цi позна ўнутранае абнаўленне адбудзецца без вашага жадання i ў самы нечаканы момант.



**Рак.** Вам шанцуе ў каханнi i па-буйному. Адзiнокiя сустрэнуць чалавека, якi можа стаць для iх iдэальным партнёрам на доўгiя гады. Сямейных чакаюць новыя радасцi ў адносiнах, i пачуццi ўспыхнуць з новай сiлай i цеплынёй.



**Леў.** Вас чакаюць перамены. Адзiны спосаб перажыць такiя падзеi – гэта прыняць iх.



**Дзева.** Займiце пазiцыю чакання i не прымайце нiякiх актыўных дзеянняў. Разлiчвайце на дапамогу толькi самых блiзкiх i верных сяброў, бо iншая можа мець злы намер.



**Шалi.** Прыглядайцеся да ўрокаў, якiя дае вам жыццё. Гэта не проста жыццёвыя прыгоды – гэта каштоўныя парады на будучае.



**Скарпiён.** Не цягнiце коўдру на сябе, i самi не застанецеся без яе.



**Стралец.** У вас ёсць магчымасць пачаць дзейнасць па ўвасабленнi ў жыццё сваiх матэрыяльных амбiцый. Вы стаiце на парозе новых здзяйсненняў, i ў вас ёсць сiлы для таго, каб дасягнуць поспеху.



**Казярог.** За што б вы нi ўзялiся, вы зможаце лёгка прасунуцца па намечаным шляху. У нейкiх выпадках прыйдзецца праявiць хiтрасць.



**Вадалей.** Вас чакаюць сур'ёзныя перамены. Вам лепш заняць пазiцыю чакання, пакуль сiтуацыя складзецца спрыяльным чынам. Вы можаце атрымаць параду звыш, яна можа прыйсцi як азарэнне цi ў сне.



**Рыбы.** Калi на вас навалiўся груз праблем, абавязкаў i клопатаў, то не адчайвайцеся. Iх меней не стане, але ў вас з'явiцца магчымасць усё давесцi да розуму.

**Марыя УРБАНОВIЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

● НАДВОР'Е

## 13 жніўня, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +13 / +17 | | +11 / +20 | | +16 / +21 | | +15 / +20 | |
| | 744 | ↘ 4 | 744 | ↗ 3 | 741 | → 5 | 743 | ↘ 3 |
| Вільня | +9 / +16 | | +10 / +15 | | +14 / +20 | | +13 / +18 | |
| | 753 | → 4 | 751 | ↗ 5 | 749 | → 6 | 752 | → 3 |

| Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Усход, захад па Маладзечне |
|---|---|---|
| Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | |

Усход 5.47
Захад 20.47
Даўжыня дня 15.00

Усход 17.01
Захад 0.55
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**ВАЛОЖЫН**

Мінімальная тэмпература +5,9 °C у 1998 годзе
Максімальная тэмпература +33,7 °C у 2010 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 20,5 мм у 1985 годзе
Паводле meteoinfo.by

## Чытайце праз тыдзень:

- **Хлопчык Лёша некалькі год таму пераехаў з Беларусі ў Злучаныя Штаты Амерыкі, а на лета прыехаў да бабулі. Чым для яго адметная кожная з гэтых краін? Ці лёгка яму там вучыцца? Як адбываецца навучанне ў амерыканскай школе? Пра гэта чытайце ў наступным нумары.**



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВАЛОЖЫНШЧЫНЫ



Фота Аляксандры ПАРАХНІ.

Летам у Івянцы.

● ПРОСТА АНЕКДОТ

Акрамя як з сябе, і выйсці няма куды.

***

Мой муж гаворыць у сне. Прычым не мычыць, а прамаўляе цэлыя сказы. Спачатку я шугалася, калі чула сказы кшталту: "Хутка ўставай, фашысты ўжо за плотам, трэба схаваць дзяцей і карову ў падвал". А пасля прывыкла. Часам нават прыслухоўваюся. Сёння ноччу перавярнуўся да мяне і кажа, нават не кажа, а стогне: "Свееет, не ўпускай снегавіка ў дом, а то будзе мокра і морква, мокра і морква..." Я насмяялася, а раніцай спыталася скрозь смех: "Што ж табе снілася?" Ён глянуў на мяне як на вар'ятку: "Нічога мне не снілася, я наогул сны не бачу!". І вось з гэтым мне жыць!

***

Выходзяць з палiклiнiкі тры доктары пасля напружанага рабочага дня.

Стаматолаг:

– О божа, паветра! Свежае паветра!

Паталагаанатам:

– І людзі! Жывыя ходзяць!

Гінеколаг:

– А галоўнае – твары! Твары!!!

***

Калі на ніжні гузік кашулі зашпіліць няправільна, то і ўсе наступныя будуць зашпіленыя не так, як трэба. У жыцці бывае шмат памылак, якія самі па сабе не памылкі, а наступствы першага, няправільна зашпіленага гузіка.

***

– Андрусь, што з табой?

– Ды што... Напалі, грошы адабралі, згвалтавалі...

– Ты запомніў, хто гэта быў?

– Жонку хіба забудзеш.

***

Кажу, што не п'ю, – усе спяшаюцца напаіць. Кажу, што на дыеце, – усе імкнуцца накарміць. Кажу, што грошай няма, – цішыня. Ці кажу ціха, ці не дачуваюць?

***

### Пра дзіцячае расчараванне

У дзіцячым садку нас троліла адна выхавальніца. Прыдумала байку, што таму, хто першы засне падчас ціхай гадзіны, у сон паставіць плёнку з новымі мульцікамі. І кожны дзень я злаваўся, што нехта зноў заснуў раней за мяне.

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў СМАРГОНІ

## Ці карысталіся вы паслугамі платнай медыцыны?



**Сяргей Кудзянчук, доктар:**
– Не карыстаўся, бо не хвараў. А сваякі карыстаюцца платнымі стаматалагічнымі паслугамі. Тут ёсць выбар: або бясплатна, або платна, але без чаргі і з лепшымі матэрыяламі.



**Анжэла Садоўская, прадавачка:**
– З паслугамі платнай медыцыны не сутыкалася. Калі што здараецца, звяртаюся ў звычайную паліклініку. Там мяне ўсё задавальняе.



**Ала Радкевіч, бібліятэкар:**
– Карысталася. Напэўна ж, як усе. Калі была цяжарная, калі дзіця было маленькае. Звычайна звяртаемся ў платныя медыцынскія цэнтры ў Мінск.



**Ганна Шчасная, індывідуальны прадпрымальнік:**
– Платная медыцына больш зручная і хуткая. Там робяць усе аналізы. Таму звяртаюся да платных медыцынскіх паслуг.



**Алена Савіцкая, студэнтка:**
– З дзяцінства мама вадзіла мяне да платнага стаматолага. Аднойчы паставілі пломбу ў бясплатай паліклініцы, але яна нядоўга прастаяла.



**Міхаіл Мялешка, маёр запасу:**
– Я вайсковец, таму звяртаюся толькі ў свой шпіталь. Там абслугоўваюць выдатна.



**Андрэй Лукашэвіч, міліцыянер:**
– Цяжарную жонку вазіў у Мінск у платны медыцынскі цэнтр. І да стаматолага звяртаюся толькі платна.

**Падрыхтавала Аксана ЯРАШОНАК.**

Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№33 (1111) 12.08.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 779. Падпісана ў друк у 9.00 11.08.2016.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.**
Тэлефоны/факс: **(0176) 769667, 747100, 753841** (рэклама).
E mail: **regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by**
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.